# УзГорак

**№ 6 – 25 ліпеня 2003 г. - Газета Грамадскіх арганізацый і ініцыятыў.**


# Беларусь і сьвет разьвіталіся з Васілём Быкавам

Пахаваньне народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава, якое было першапачаткова заплянаванае як дзяржаўнае, ператварылася ў сапраўды народнае пахаваньне пасьля таго, як ад ягонай арганізацыі адмовілася дзяржаўная камісія на чале зь міністрам культуры Леанідам Гулякам. Труну несьлі на руках — ад Дому літаратара да Ўсходніх могілак. Гэтае шматтысячнае шэсьце ператварылася ў дэманстрацыю беларускім народам любові да свайго пісьменьніка і прарока, да Бацькаўшчыны.

Васіля Быкава адпяваў уніяцкі сьвятар Андрэй Абламейка, праводзілі яго ў апошні шлях таксама каталіцкія і праваслаўныя сьвятары. З Васілём Быкавым разьвіталіся дзясяткі тысяч грамадзянаў Беларусі, пісьменьніцкія дэлегацыі з Расеі, Украіны, Літвы, Польшчы, маладыя і старыя, вядомыя і звычайныя людзі, дэпутаты і прадстаўнікі апазыцыі.

Людзкая рака ішла за труной народнага пісьменьніка па праспэкце Францішка Скарыны ў Менску, спыняліся машыны, людзі несьлі безьліч кветак: руж, гвазьдзікоў, васількоў, безьліч вянкоў ад калегаў, сяброў, розных арганізацыяў, у тым ліку ад Рады БНР.

Гэта быў, бадай, адзіны выпадак, калі міліцыя не хапала людзей за бел-чырвона-белыя сьцягі, якіх былі сотні.

Аднак менавіта гэтыя сьцягі не дазволілі працаваць дзяржаўнай камісіі ў справе пахаваньня Васіля Быкава. Сын Быкава Сяргей накрыў цела бацькі вялікім нацыянальным сьцягам. Родныя ж, перш за ўсё жонка нябожчыка, адмовіліся ад прапанаванага дзяржаўнай камісіяй чырвона-зялёнага дзяржаўнага сьцяга.

Пасьля гэтага старшыня дзяржаўнай камісіі міністар культуры Леанід Гуляка сказаў што яму як дзяржаўнаму службоўцу нельга тут прысутнічаць. Разам зь іншымі сябрамі камісіі і вайскоўцамі ён пакінуў залю Дому літаратара на пачатку цырымоніі разьвітаньня з Быкавым. Перад гэтым салдаты паклалі да труны пісьменьніка вянок ад Аляксандра Лукашэнкі, які знаходзіўся сёньня ў Сьветлагорску.

Пасьля сыходу Леаніда Гулякі адказнасьць за арганізацыю пахаваньня ўзяў на сябе грамадзкі камітэт на чале са старшынём Саюзу пісьменнікаў Алесем Пашкевічам. Усе ў Доме літаратара з палёгкай уздыхнулі, калі скончыліся канфрантацыйныя перамовы зь дзяржаўнымі прадстаўнікамі.

Алесь Пашкевіч вёў грамадзянскую паніхіду на пахаваньні Васіля Быкава:

«Ён стаў клясыкам пры жыцьці, зьведаў і славу і беспрэцэдэнтнае цкаваньне іганьбаваньне. Але да сваёй славы, шматлікіх заслужаных узнагарод ён ставіўся спакойна. На брудныя наскокі ён намагаўся не рэагаваць, хоць усё гэта атручвала ягонае жыцьцё. Дзіўным чынам у гэтым чалавеку ўжывалася цьвёрдасьць, бескампраміснасьць у адстойваньні прынцыпаў справядлівасьці й праўды зь мяккасьцю характару, выключнай далікатнасьцю і тактам у адносінах зь людзьмі».



**Прыяг на ст. 2**

# Беларусь і сьвет разьвіталіся з Васілём Быкавам



Алесь Пашкевіч казаў, што апошнія гады Быкаў ня мог рэалізоўваць свае творчыя пляны на радзіме і жыў за мяжой, але вярнуўся дадому, каб спачыць у роднай зямлі. Блізкі сябра Быкава Рыгор Барадулін шчыра прызнаўся, што пасьля сьмерці маці гэта найбольшая ягоная страта.

Барадулін: «Тры сьвятых, тры арыенціры ў маім жыцьці былі, ёсьць і будуць: Бог, мама і Васіль Быкаў. Сьветлая памяць Васілю Быкаву! Госпадзе, прымі ягоную душу!»

Сакратар Нацыянальнага саюзу ўкраінскіх пісьменьнікаў Вячаслаў Мядзьведзь нагадаў, што на ўкраінскай зямлі, пад Кіраваградам, дзе ваяваў Васіль Быкаў, на брацкай магіле напісанае ягонае прозьвішча:

Мядзьведзь: «Для звычайнага чалавека гэта было бы трагічна, а для такога вялікага чалавека гэта, магчыма, Боскі знак. Слава Васілю Быкаву, слава Беларусі!»

Паэт Генадзь Бураўкін сказаў, што Быкаў быў беларускім прарокам, якому аддае пашану ўвесь сьвет, а хавае яго беларускі народ — тыя, хто не на загад, а сэрцам пакліканы сюды.

Бураўкін: «Даруй, Васіль, за ўсё, што перанёс,

За ворагам нанесеныя раны,
За брудныя пляўкі з тэлеэкрану,
За сьлёзы ўшацкіх сьсечаных бяроз.
Даруй, што ўсе свае зямныя дні
Ты азіраўся з горыччу міжволі
На памяці закінутае поле
І спадзяваньня спаленыя пні.
Даруй за наш нялітасьцівы час,
За ціхае кананьне роднай мовы,
За ўдзячнасьці запозьненыя словы».

Сакратар Саюзу пісьменікаў Масквы сябар Быкава Валянцін Аскоцкі заявіў, што талент Васіля Быкава сілкаваўся зь беларускіх каранёў, але выйшаў на сусьветны ўзровень.

Аскоцкі: «Васіль Быкаў быў сумленьнем Беларусі, але адначасова ён быў і сумленьнем Расеі. Ён быў сумленьнем усіх людзей, без адрозьненьня нацыяў, якія ідуць да ідэалаў гуманізму, дабра, чалавечнасьці, веры ў чалавека».



Валянцін Тарас назваў Васіля Быкава «прэзыдэнтам вялікай беларускай літаратуры, якую ён сьцьвердзіў як ніхто іншы».

Са шчымлівымі словамі пра Васіля Быкава выступіў старшыня Нямецкага фонду «Прымірэньне» Крыстафэр Хойднэр:

Хойднэр: «У гэтую гадзіну шмат людзей у Нямеччыне, Францыі, іншых эўрапейскіх краінах зь любоўю і пачуцьцём думаюць пра Васіля Быкава. І асабліва ў Нямеччыне, бо Васіль Быкаў адкрыў немцам тое, што яны нарабілі ў Беларусі падчас вялікай айчынай вайны. Ён пісаў праўду, але так, што заставаўся адкрытым чалавекам, ён працягваў чытачам руку».

Старшыня дэпутацкай групы «Рэспубліка» Сяргей Скрабец выказаў гатовасьць змагацца за справу і ідэалы Васіля Быкава — свабоду і незалежнасьць Радзімы.

Дырэктар Беларускай службы Радыё Свабода, сябар сям'і Быкавых Аляксандар Лукашук пачаў сваю прамову словамі «Анёл зьявіўся ў Беларусі».

Лукашук: «Цяпер вялікая душа Васіля Быкава разьвітваецца з тымі, хто любіў яго ў Амэрыцы, Эўропе Вацлаў Гавэл напісаў, што гонар для Чэхіі — прыезд туды Васіля Быкава. Мы мелі шчасьце зь ім і ягонай жонкай Ірынай Міхайлаўнай шмат гуляць па вуліцах і парках Прагі й гаварыць. Але ягонай галоўнай любоўю была Беларусь, нават у бальніцы, на шпітальным ложку ён прасіў прынесьці яму радыё, каб слухаць пра тое, што адбываецца тут».

Прысутныя ў залі і тыя, хто слухаў жалобныя прамовы на вуліцы, былі ўсьцешаныя пачуць слова самога Васіля Быкава пра адказнасьць пісьменьніка, якія прагучалі ў запісе з архіву Радыё Свабода. «Ісьціна за намі», — казаў тады Васіль Быкаў.

***Валер Каліноўскі***
***Радыё «Свабода»***

**_Представители негосударственных организаций Беларуси обратились к зарубежным представительствам, аккредитованным в нашей стране, с призывом оказать через свои правительства давление на белорусское руководство, которое начало настоящую войну против «третьего сектора». Об этом было заявлено в четверг во время встречи руководителей крупнейших негосударственных организаций нашей страны с иностранными дипломатами._**

# «Третий сектор» защищается от государства

5 июня руководители организаций «третьего сектора» встретились с представителями дипломатических миссий, аккредитованных в Беларуси. Целью встречи являлось ознакомление дипломатов с тем тяжелым положением, в котором оказались белорусские НГО.



— Мы хотели проинформировать о той сложной ситуацией, которая сложилась вокруг неправительственных организаций по причине исков, поданных на ликвидацию именно этих крупных организаций, и хотели обратиться к правительствам стран, к международному сообществу, к тем посольствам, которые находятся в Беларуси, с просьбой обратить особое внимание на нарушение прав ассоциаций, организаций, которые сейчас происходят в Беларуси. Также следующая наша инициатива - мы обратились к Офису ОБСЕ в Минске с предложением организовать конструктивный диалог между неправительственными организациями и властями, в частности, с Министерством юстиции по ситуации с закрытием неправительственных организаций, с такой «зачисткой» «третьего сектора» в Беларуси, — заявил руководитель рабочей группы Ассамблеи демократических негосударственных организаций А.Беляцкий.

Попытка наладить диалог с властями с помощью миссии ОБСЕ во главе с послом Виком уже была несколько лет назад. Как известно, та попытка окончилась полным провалом. Настоящая попытка наладить диалог, по мнению Алеся Беляцкого, может иметь другие результаты, потому что в нем участвуют другие субъекты.

- Я считаю, что здесь достаточно другой формат по сравнению с тем, что было раньше, ибо сейчас в диалоге участвуют не политические партии, а общественные, неправительственные организации. Мы пока что являемся полноправными зарегистрированными субъектами, мы активно работаем с обществом, я думаю, что и в интересах властей тоже поучаствовать в этом диалоге.

Что же касается запрета организаций властями, нерегистрации их, то здесь, по мнению А. Беляцкого, проблем больше возникает у самих властей, чем у организаций «третьего сектора».

- Я не думаю, что эти закрытия являются позитивом для властей. Я уверен: те люди, которые работают в этих неправительственных организациях, они и далее будут продолжать свою работу. Другое дело, что регистрация организаций дает возможность Минюсту, властям легально контактировать с этими организациями. Никто не может запретить мне заниматься тем, чем я занимаюсь, но без регистрации. Власти теряют этот шанс. Здесь снова возникает проблема, с которой мы сталкивались в начале 90-х годов, когда у нас несколько сот неправительственных организаций, как их тогда называли, неформальных организаций, работали как незарегистрированные вплоть до принятия закона о негосударственных организациях. После этого ситуация нормализировалась, но сегодня мы снова видим, что почти половина этих организаций работает без всякого контакта с Минюстом, с властями, и это, я думаю, что это большая проблема именно для властей.

Тем временем, начинается новая волна проверок негосударственных организаций, которых власти пока еще не трогали. А в ближайшее время решится судьба Молодёжного христианско-социального союза, дело о закрытии которого рассматривает Верховный суд.

**_Хартыя"97_**

# Команда «фас» дана



***Приняты дополнения в некоторые законы Беларуси по вопросу об ответственности за нарушения законодательства о проведении массовых мероприятий. Поправки, в частности, вносятся в законы «О политических партиях» и «Об общественных объединениях». Они приводят законодательство в соответствие с декретом президента N11 от 7 мая 2001 года «О некоторых мерах по совершенствованию порядка проведения собраний, митингов, уличных шествий, демонстраций и пикетирований в Республике Беларусь». Нормы этого декрета предусматривают возможность ликвидации политической партии, профсоюзной или иной организации за однократное нарушение законодательства о порядке проведения массовых мероприятий.***

Данная мера, согласно проекту, отмечает БелаПАН, может применяться в случае необеспечения ответственными лицами надлежащего порядка организации массовой акции и причинения ущерба на сумму 10 тысяч и более базовых величин или существенного вреда правам и законным интересам граждан либо государственным и общественным интересам. При этом ликвидация партии и общественного объединения может осуществляться только в судебном порядке.

«Парламентарии» также поддержали во втором чтении предложенные президентом изменения в закон «О собраниях, митингах, уличных шествиях, демонстрациях и пикетировании». Эти поправки приводят закон в соответствие с уже упомянутым декретом N 11 и декретом главы государства от 9 сентября 1999 года N 36 «О некоторых мерах по предупреждению чрезвычайных происшествий при проведении массовых мероприятий». Как и первый законопроект, данный документ ужесточает требования к проведению массовых мероприятий и усиливает ответственность организаторов за соблюдение порядка. Требования законопроекта не распространяются на собрания трудовых коллективов, политических партий, профсоюзов, религиозных и иных организаций, проводимые в закрытых помещениях, а также на встречи с избирателями и собрания, проводимые президентом и депутатами национального парламента и местных Советов депутатов. Кроме того, требования закона не распространяются на богослужения, религиозные обряды, ритуалы и церемонии, проводимые в культовых зданиях, сооружениях и на относящихся к ним территориях, а также в иных местах, предоставленных религиозным организациям дл[illegible].

***Хартыя'97***

# Аллея столбов



Втечение нескольких лет на улицах города активно идет процесс, именуемый в народе лесоповалом. О необходимости столь кардинального приведения в порядок разросшихся деревьев мнения высказываются разные, однако коммунальный отдел райисполкома и подведомственные ему службы в последнее время настроены решительно: резать. Аргументы высказываются самые убедительные. Снизится количество тополиного пуха и, как следствие, уменьшится объем работы по его уборке. Опять-таки, знаменитая аллергия. Далее - деревья с отросшими «шапками» выглядят эстетичнее.

В этом году даже стандарт придумали - шесть метров. Почему именно шесть, а не пять и не восемь - до сих пор остается загадкой. Из каких соображений исходил таинственный автор идеи, выяснить так и не удалось, как, впрочем, и фамилию самого автора. Один из моих собеседников (специалист в области биологии) предположил, что именно таким в момент принятия решения являлось количество мух на потолке некоего кабинета. Других логических объяснений биолог здесь не нашел.

Всю весну служба озеленения «Коммунальника» носила с собой соответствующей длины рейку, под которую «причесывала» и молодые каштаны на площади Ленина и огромные тополя в старых микрорайонах. Что из этого вышло, можно увидеть на снимке, а можно - выйдя на улицу.

Каштанам, конечно, хоть бы что. Другим молодым деревьямто же. А вот двуобхватные тополя во многих местах города, похоже, придется срезать под корень. «Где были глаза озеленителей, когда они оставляли от огромного дерева один ствол, обрезая все ветки? - Возмущается упомянутый специалист. - Откуда, по их мнению, должны расти теперь листья - из ствола? Деревья ведь просто задохнутся. Посмотрите, какие огромные листья растут на большинстве обрубков».

Действительно, не надо быть крупным ботаником, чтобы понимать, что десяток листочков, которые из последних сил вырастило ободранное дерево, его уже не спасут. Что касается проблемы тополиного пуха, то не проще ли один раз удалить с улиц его источники (как оказалось, «производят» пух не все тополя, а только «женские» деревья) и высадить на их месте что-нибудь более подходящее для города. Березы, например. Или груши. Рассуждения же об эстетике, скорее всего померкнут при взгляде на возникающие то там, то тут «аллеи столбов», одна из которых видна на снимке.

# Проще построить новое



В редакцию обратились жители микрорайона, находящегося напротив автовокзала. Звонившие попросили выяснить, почему заброшенное здание бывшей котельной (после её закрытия там были последовательно: баня, детский клуб, кооператив, авторемонтная мастерская) многие годы пустует. В то же время находящийся в полуподвале одного из домов клуб «Импульс» испытывает нужду в площадях, а проживающие в округе детишки так и норовят забраться в закрытые решётками «руины».

Как выяснилось, ныне здание принадлежит трём хозяевам: в одной из частей расположен теплоузел, в другой - трансформатор, а пустующие помещения принадлежат предпринимателю Зубареву. На переадресованные ему вопросы Алексей Васильевич ответил следующее. В помещении планировалось открыть производственный цех, была начата реконструкция, однако многочисленные требования контролирующих служб, касающиеся безопасности, с учетом соседства того же трансформатора, оказались слишком жёсткими. В связи с этим здание законсервировано и после изготовления всей требуемой проектной документации его реконструкция возобновится. Однако будет это не ранее следующего года.

***Иван Морозов***

# Я люблю Горкі




У Горках на вуліцы Якубоўскага з'явілася дзівосная клумба з кветкамі. Падобна, што яна можа стацца такой самай адметнай кропкай горада як сонечны гадзіннік, пра ўсталяванне якога летась казалі нават па беларускіх FM-станцыях. Клумба ўяўляе сабою частку вялікага надпісу з кветак: «Я люблю Горкі». Прычым паняцце «люблю» перададзена прабітым стралой сардэчкам. Недалёка ад надпісу горацкія камунальнікі разбілі з кветак герб горада - тры жоўтыя каласкі на трох пагорках.

На фоне «кветкавай архітэктуры» ўжо фатаграфуюцца жыхары горада і абітурыенты БДСГА.

***Ілля Заранок***

# Беларускамоўнае набажэнства

У нядзелю 29 чэрвеня ў малельным доме хрысціянаў веры евангельскай «Благодать» адбылося беларускамоўнае набажэнства.

Да гэтай справы мясцовыя пяцідзесятнікі ішлі адносна доўга: засмучала адсунасць поўнага перакладу Бібліі, а таксама недасканалае валоданне роднай мовай, якое патрэбнае ў казанні. Менавіта таму літургію праводзіў не сам пастар Мікалай Цэван, а ягоны памочнік Вячаслаў Лобан. На імшу прыйшло крыху болей за сорак чалавек.

Увогуле найбольшыя пратэстанцкія прыходы ў Горках у пяцідзесятнікаў ды баптыстаў - у кожным каля 80 чалавек. Малельныя дамы працуюць з пачатку дзевяностых, а прыходы афіцыйна зарэгістраваны. Вернікі з дазволу адміністрацыяў ладзяць сустрэчы са школьнікамі ды студэнтамі, праводзяць гарадскія мерапрыемствы і дапамагаюць сіротам.

Найменш прыхаджанаў у Адвентыстаў сёмага дня, якія з'явіліся ў Горках толькі ў 2002 годзе. З таго часу царква не атрымала рэгістрацыі, а па новым законе "Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях" наўрад ці здолее дамагчыся афіцыйнага статусу.

***Ілля Заранок***



# Свет Ніны Кавалёвай




Двадцаць пяць годь таму сярод сузор'я паэтаў з'явілася новая зорачка Ніны Кавалёвай. Свет яе ззяння быў амаль непрыкметны сярод зіхацення іншых паэтаў і, магчыма, яго б ніхто і не заўважыў, каб ні яго высокасць Выпадак.

На зорачку звярнуў увагу і дапамог ёй знайсці сваё месца ў паэтычным сузор'і журналіст Раман Ярохін. Крок за крокам Ніна Дзміірыеўна падымалася на паэтычны Парнас. Гэта бачна па яе кнігах, якіх выпушчана ўжо восем.

З 1997 года Ніна Кавалёва з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі. А 22 мая напярэдадні Дня Славянскай пісьменнасці і культуры адбылася прэзентацыя новага зборніка «Зов любви», выхад якога стаў магчымым дзякуючы падтрымцы гарадскага раённага выканаўчага камітэта, які выдаткаваў шэсцьсот тысяч рублёў на яго выданне. Гэта восьмы зборнік паэтэсы, ў якім як бы падводзяцца вынікі дваццаці пяці год творчасці. Зборнік складаецца з трох частак. Першая «Зорьки над Горкамі» уключае вершы пра Горацкі край, яго жыхароў, гісторыю, падзеі, аб горадзе, які

*«Всегда любимый и открытый,*
*Как книга созданных стихов».*

Раздзел «Тёмнолесская округа» прысвечаны мясцінам дзяцінства і юнацтва паэтэсы, яе «маленькай Радзіме».

*«Не ответит ни сердце, ни разум,*
*Почему эти взгорки люблю.*
*И поётся и плачется разом,*
*Лишь на землю родную ступлю».*

Трэці раздзел даволі нечаканы для паэтэсы, якую ўсе лічаць рускамоўнай. І раптам «Матчыны песні». Нягледзячы на сваё амаль цалкам рускамоўнае акружэнне, паэтэса лічыць:

*«Мо душа ў родным слове?*
*Колькі б вершаў ты ні склаў,*
*Не сказаў на роднай мове -*
*Аб галоўным не сказаў».*

Тут змешчаны як вершы на роднай мове, так і аўтарскія пераклады з рускай мовы.

Свет Ніны Дзмітрыеўны - гэта пакой з двумя вокнамі, дзе яна праводзіць увесь свой час, але, нягледзячы на абмежаваныя магчымасці, паэтэса бачыць свет больш шырока, чым шмат хто з тых, каму даводзіцца хадзіць па вуліцы. Яна любіць жыццё, умее цаніць дабрыню і ўдзячна лёсу, што здолела знайсці сваё месца ў жыцці.

***Святлана Скаромная,***
***кіраўнік літаратурнага аб'яднання «Роднае слова»***

# Ахова асяроддзя



З ініцыятывы грамадскага аб'яднання "ЭНДО"у Магілёўскім абласным камітэце прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя прайшла працоўная сустрэча па стварэнні аб'яднанай каардынацыйнай рады недзяржаўных і дзяржаўных арганізацый, якія працуюць у сферы аховы навакольнага асяроддзя.

Неаспрэчным ёсьць той факт, што ў Магілёве і вобласці мноства экалагічных праблем, якія адбіваюцца не толькі на стане флоры і фауны рэгіёна, знешнім выглядзе месц, але істотна ўплываюць на здароўе. Вырашэнне гэтых праблем, як засведчылі прадстаўнікі дзяржаўных і недзяржаўных арганізацый, будзе значна эфектыўней пры сумесных намаганнях і адпаведнай каардынацыі гэтых дзеянняў. Рэспубліка Беларусь падпісала Архускую Канвенцыю, адпаведна якой грамадства мае права доступу да інфармацыі і права ўдзелу ў працэсе прыняцця рашэнняў у пытаннях навакольнага асяроддзя.

Удзельнікі сустрэчы стварылі раду. У яе ўвайшлі 5 грамадскіх і 2 дзяржаўныя арганізацыі. Мэта яе спрыяць рэалізацыі Архускай Канвенцыі і павышаць эфектыўнасць узаемадзеяння недзяржаўных і дзяржаўных арганізацый, што працуюць у сферы аховы навакольнага асяроддзя. Старшынёй рады выбраны Андрэй Пахоменка (грамадскае аб'яднанне "ЭНДО"). Прынята і Палажэнне аб Аб'яднанай каардынацыйнай радзе. Паводле палажэння створаная структура адкрыта для ўсіх зарэгістраваных арганізацый, якія б хацелі далучыцца да спраў паляпшэння экалагічнага стану рэгіёна.

***Сяргей Кунцэвіч***

# Улады падпішуць з праваслаўнай царквой канкардат

***13 чэрвеня прэм'ер-міністар Генадзь Навіцкі й мітрапаліт Філарэт падпішуць адмысловае пагадненьне аб супрацоўніцтве паміж дзяржавай і Праваслаўнай царквой. Гэтае пагадненьне вызначае асаблівы статус Праваслаўнай царквы ў Беларусі і надае ёй шматлікія прэфэрэнцыі.***

***Пра тое, што дзяржава падпіша з Праваслаўнай царквой адмысловы канкардат, Аляксандар Лукашэнка заявіў яшчэ мінулай восеньню, калі наведваў менскі Дом міласэрнасьці. Пасьля яшчэ раз падцьвердзіў свой намер падчас каляднай багаслужбы ў царкве. І вось цяпер пагадненьне гатовае.***



Адзін з аўтараў гэтага дакумэнту, рэфэрэнт па юрыдычных пытаньнях Менскай эпархіяльнай управы Андрэй Алешка не хавае, што гэтае пагадненьне надае вялікія прэфэрэнцыі Праваслаўнай царкве. Галоўная мэта пагадненьня - прасоўваць наперад царкоўна-дзяржаўнае супрацоўніцтва.

Цяпер прадстаўнікам Праваслаўнай царквы будзе адкрыты шырокі доступ у навучальныя ўстановы, армію, шпіталі, месцы зьняволеньня. Акрамя гэтага, пагадненьне прадугледжвае дзяржаўную дапамогу ў справе рэстаўрацыі ды ўтрыманьня храмаў-помнікаў архітэктуры, а таксама прадастаўленьне Царкве падаткавых ды іншых ільготаў.

Андрэй Алешка сьцьвярджае, што льготы будуць атрымлівацца толькі пад канкрэтныя праекты. На ягоную думку, пагадненьне цалкам адпавядае Закону аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях і ня мае дыскрымінацыйнага характару ў адносінах да іншых канфэсіяў.

Супрацоўнік Беларускага экзархату адказны за адносіны са СМІ архімандрыт Аляксей Шынкевіч, лічыць гэтае пагадненьне вельмі своечасовым:

- «Калі мы зьвернемся да досьведу іншых краінаў, то дзяржава самым актыўным чынам падтрымлівае жыцьцё Царквы, асноўных канфэсіяў. І я лічу, што гэта неабходна, бо царква сёньня ў матэрыяльным пляне слабая. І законы такія дзейнічаюць, што Царкве наагул няма ад каго чакаць грошай. А нашыя прыхаджане - людзі вельмі бедныя, мы Царква вельмі бедных людзей».

На думку архімандрыта, канкардат не прывядзе да міжканфэсійнай напружанасьці ў грамадзтве і не абмяжуе правы іншых Цэркваў і дэнамінацыяў.

А вось кіраўнік цэнтру па праблемах эўраінтэграцыі пры Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце, палітоляг Юры Шаўцоў лічыць, што любая спроба надаць дзяржаве рэлігійны характар можа прывесьці да сур'ёзнай напружанасьці ў грамадзтве:

- «Я думаю, што наша дзяржава павінна быць сьвецкай. І калі ў нас будзе нейкім чынам парушаны гэты чыньнік, калі дзяржава будзе станавіцца ня сьвецкай, нейкай іншай, гэта будзе весьці да дэстабілізацыі ў грамадзтве. Калі казаць пра прынцып, то любое парушэньне сьвецкага характару нашага грамадзтва й дзяржавы - яно прывядзе да шэрагу канфліктаў. Калі не канфліктаў, дык напружанасьцяў. І міжканфэсійнае супрацьстаяньне будзе толькі часткай сыстэмы напружанасьцяў, якая можа паўстаць у любым выпадку».

Палітоляг, аднак, сумняецца, што Беларусь неўзабаве страціць сьвецкі характар дзяржаўнай улады.

***Альгерд Невяроўскі, «Радыё Свабода»***

**Весткі ад суседзяў**

## Благія намеры

Аб кансалідацыі апазыцыйна настроеных сілаў краіны і ролі ў гэтым працэсе дэпутацкае групы Палаты прадстаўнікоў «Рэспубліка» гаварыў на сустрэчы з прадстаўнікамі рэгіянальных структураў палітычных партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў старшыня групы Сяргей Скрабец. Сп. Скрабец прэзэнтаваў распрацаваную дэпутацкай групай «Рэспубліка» Праграму неабходных захадаў дзеля стварэньня свабоднага грамадзтва ў Беларусі. Сярод агучанага асаблівая ўвага была нададзена хібам дзейнага выбарчага кодэксу краіны і заканадаўчай ініцыятыве дэпутацкай групы «Рэспубліка» на ўнясеньне ў кодэкс дапаўненьняў і зьменаў. Сп. Скрабец удакладніў інфармацыю аб акцыі збору подпісаў грамадзянаў у падтрымку ініцыятывы, падкрэсьліўшы пры гэтым, што ад 30 траўня быў распачаты этап падрыхтоўкі да акцыі. Ініцыятары акцыі маюць намер сабраць 400 000 подпісаў і даслаць іх, у тым ліку, і прэзыдэнту краіны. Гаварыў сп. Скрабец аб кансультацыях з палітычнымі партыямі і аб успрыняцьці партыйцамі дэпутацкае групы «Рэспубліка», аб намеры на выбарах дастаць 30-40 месцаў у парляманце і што за сваё абапірашча найперш уважаюць моладзь і прадпрымальнікаў. Рэакцыя прысутных на выступ сп. Скрабца была надзвычай стрыманая. Шмат на якія пытаньні, калі і былі адказы, дык надзвычай размытыя і няпэўныя. Скэптычна паставілася аўдыторыя і да кансалідацыйных амбіцыяў «Рэспублікі».

***Алесь Асіпцоў***

## Супрацьстаянне варварству

Група магілёўскіх гісторыкаў цягам двох месяцаў бароніць ад зьнішчэньня культурны слой у гістарычным цэнтры Магілёва ад канцэрна «Белнафта». Канцэрн распачаў будаўніцтва двох заправак у ахоўнай зоне, межы якой былі абазначаныя яшчэ ў 1990 годзе.

Пры пракладаньні камунікацыйных траншэяў, ля сьценаў Магілёўскага медычнага каледжа (помніка архітэктуры XIXст.) будаўнікі натрапілі на падваліны старых збудаваньняў. Аб гэтым факце паведамілі гісторыкам звычайныя мінакі. На месцы высьветлілася, што знойдзенае будаўнікамі засыпана жвірам. Тутака ж быў складзены акт аб зьнішчэньні культурнага слоя. Дакумант быў накіраваны дырэктару дэпартамента па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры сп. Абламскаму. У хуткім часе падобнага зьместу акт быў складзены і на факт зьнішчэньня гістарычнага слоя паблізу Быхаўскага рынку.

Як зазначаюць гісторыкі, у выніку дзейнасьці канцэрну «Белнафта» былі зьнішчаныя старажытныя стаянкі эпохі палеаліту, архітэктурныя сьведчаньні сярэднявечча. Гісторыкі разумеюць, што цяпер ратаваць выпадае тое, што яшчэ ня зьнішчана і настойваюць на архэлягічным аглядзе і ўзгадненьні плянаў камунікацыяў. Працы ў ахоўнай зоне тым часам працягваюцца. Кажуць, што хочуць будаваць прыватную запраўку і на «Школішчы», на месцы дзе раней была сінагога.

***Алесь Асіпцоў***

## Хабар з нябожчыкаў

Прыцягнутыя да крымінальнай адказнасці ўрач-паталагаанатам і санітар раённай бальніцы. За даследванне нябожчыкаў і атрыманне даведкі блізкія памерлых вымушаныя былі плаціць па два мінімальных заробка. Урач атрымаў 3 гады пазбаўлення волі, а яго памагаты 3 гады «хіміі».

***Рыгор Латышэвіч***

## Замах на святое

Дэпутат Бялыніцкага райсавета спадар В. Вусік прапанаваў дзеля павелічэння мабільнасці супрацоўнікаў праваахоўных органаў перадаваць у іх карыстанне на выходныя дні службовыя аўтамабілі дзяржаўных устаноў, арганізацый і прадпрыемстваў раёна альбо наогул стварыць у Бялынічах са службовых легкавушак парк легкавых аўтамабіляў. Статыстыка сведчыць, што менавіта ў выходныя дні здзяйсняецца найбольшая колькасць злачынстваў і правапарушэнняў, прадухіліць ці раскрыць якія дапамогуць дадатковыя патрульныя машыны. Дэпутаты раённага Савета, які больш як на 90 % складаецца з кіраўнікоў самага рознага ўзроўню, прапанову сп.Вусіка не падтрымалі.

Між тым, райвыканкам прыняў рашэнне аб закрыцці з 1 ліпеня да 8 жніўня ўсіх дзіцячых садкоў Бялыніцкага раёна. Прычынай рашэння стаўся недахоп фінансавання.

Абураныя бацькі, дзеці якіх застануцца без нагляду на цэлы месяц, збіраюцца адстойваць свае правы і накіравалі скаргі ў абласныя інстанцыі.

***Базыль Лицьвіновіч***

## У пошуках прычыны

Асіповіцкі раённы выканаўчы камітэт адмовіў у рэгістрацыі суполцы прадпрымальнікаў унітарнага прадпрыемства "Рынак" Свабоднага Прафсаюза Беларускага з-за неадпаведнасць пададзеных дакументаў са статутам Свабоднага Прафсаюза Беларускага.

Між тым Свабодны Прафсаюз Беларускі арганізацыі прадпрымальнікаў унітарнага прадпрыемства «Рынак» фактычна існуе ўжо год і налічвае 125 сябраў.

## Падаілі нафтаправод

Толькі ў траўні супрацоўнікамі службы аховы нафтатрубаправодаў, пры падтрымцы супрацоўнікаў мясцовага аддзялення КДБ, былі затрыманы дзве групы жыхароў Крычаўскага і Мсціслаўскага раёнаў, якія займаліся несанкцыяніраванымі ўрэзкамі ў нафтапрадуктаправод Унеча - Вентспілс. Служба аховы створана менавіта дзеля прадухілення крадзяжу паліва з нафтапрадуктаправода.

Несанкцыянаваны забор нафтапрадуктаў небяспечны не толькі для саміх злачынцаў, але пагражае экалагічным забруджваннем навакольнага асяроддзя і стварае пажаранебяспечнае становішча.

***Андрэй Кузьмін***

## Узгадаем піянерскае дзяцінства

Арганізацыям, прадпрыемствам, калгасам і саўгасам, установам, а таксама ўстановам адукацыі і аховы здароў'я Бялыніцкім райвыканкамам даведзены план на збор макулатуры, рыззя і гэтак званага шклабою.

Мясцовая ўлада тлумачыць гэта неабходнасцю садзейнічання райспажыўтаварыстcву ў выкананні заданняў на прыём другаснай сыравіны. Сёлета плануецца сабраць 122 тоны макулатуры, 51 тон - рыззя, 20 тон - шклабою.

Калгасы і саўгасы павінны сабраць прыкладна 10 тон макулатуры, дробныя арганізацыі ды ўстановы - па 1 тоне.

Газета УзГорак

**Рэдактар** - ***Эдуард Брокараў;***
**тэхнічны рэдактар** - ***Дзям"ян Франкоўскі.***
**E-mail**: *dnescer@tut.by*
Выпуск-6, ад 25.06.2003 г. Фармат - А-4, 8 палос. Наклад - 299 асобнікаў.
**Адрас рэдакцыі:** *г. Горкі, зав. 2-гі Магілёўскі, д.1.* Надрукавана на тэхніцы горацкага РА РГА ***«Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў»***.